СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск—5.07, 21.23, 16.16;
Віцебск—4.50, 21.20, 16.30;
Магілёў—4.56, 21.12, 16.16;
Гомель—5.02, 21.01, 15.59;
Гродна—5.25, 21.36, 16.11;
Брэст—5.32, 21.30, 15.58.

МЕСЯЦ:
Апошняя квадра 23 ліпеня.

ІМЯНІНЫ:
Лявонція, Маўрыкія, Данілы, Антона, Аляксандра; Богны, Апалінарыя.

# ЗВЯЗДА

23 ліпеня 1992 г. чацвер, № 146 (21924)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ



22 ліпеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Браян Фол уручыў вярыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.

Сэр Браян нарадзіўся 13 снежня 1937 года, закончыў Макдалон-каледж у Оксфардзе, а таксама юрыдычны факультэт Мічыганскага універсітэта.

У 1962 годзе ён паступіў на дыпламатычную службу яе Вялікасці, а праз тры гады быў накіраваны на работу ў Маскву. З 1968 па 1970 гады працаваў у прадстаўніцтве Злучанага Каралеўства пры ААН. У 1970—1971 гадах — начальнік курса ў каледжы дзяржаўнай службы. З 1971 па 1975 гады працаваў у аддзеле Усходняй Еўропы і СССР, а затым — у аддзеле заходніх арганізацый, з'яўляўся намеснікам кіраўніка дэлегацыі Вялікабрытаніі на папярэдніх перагаворах па НБСЕ ў Хельсінкі.

У 1976 годзе быў накіраваны ў Цэнтр міжнародных адносін Гарвардскага універсітэта. З 1977 па 1979 гады зноў працаваў у Маскве ў якасці палітычнага саветніка і начальніка канцылярыі пасольства Вялікабрытаніі ў СССР. У 1979—1980 гадах узначальваў аддзел энергіі, навукі і космасу міністэрства замежных спраў і па справах садружнасці, а затым — аддзел Усходняй Еўропы і СССР. З 1981 па 1984 гады быў кіраўніком асабістага сакратарыята міністра замежных спраў і па справах садружнасці. У 1984—1986 гадах з'яўляўся дырэктарам кабінета генеральнага сакратара НАТО. У 1986—1988 гадах — памочнік міністра замежных спраў і па справах садружнасці па пытаннях абароны. У 1988—1989 гадах — пасланнік у Вашынгтоне, а ў 1989—1992 гадах — вярхоўны камісар у Канадзе.

Сэр Браян жанаты, мае трох дачок.

Узнагароджаны ордэнам Св. Міхаіла і Св. Георгія ў 1984 годзе. У 1991 годзе стаў кавалерам гэтага ордэна другой ступені.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь—БЕЛІНФАРМ.**

## ПА ТУРЫСЦКІХ МАРШРУТАХ ГУЛЯЕ... ВЕЦЕР

**МІНСК. Турысцкім арганізацыям Мінска, ды, напэўна, і іншых гарадоў Беларусі, самы час крычаць «каравул». І справа не ў надвор'і — яно выдатнае, ды і калі гэта наогул турыстаў спынялі вецер і дождж?..**

Для параўнання, мінулагодняй вясной гарадскі турклуб сталіцы Беларусі арганізаваў 117 паходаў і адправіў у іх 1.007 чалавек. За ўсю ж вясну і палову лета гэтага года—крыху больш за 40 паходаў і каля 300 аматараў падарожжаў. Ды і чаму тут здзіўляцца: катэгарыйны паход на Алтай для групы з 8 чалавек каштуе ні многа ні мала—120 тысяч рублёў. Таму і прыходзіцца сумнявацца, наколькі здаровым будзе адпачынак.

# ПРАМАЯ ЛІНІЯ



*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## *Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

*адкажа на пытанні чытачоў «Звязды»*

**Станаўленне рэальнага суверэнітэту Беларусі. Прызнанне яе сусветным супольніцтвам. Крызіс у эканоміцы. Магчымасці сацыяльнай абароненасці насельніцтва пры пераходзе да рынку. Рост нацыянальнай самасвядомасці і развіццё міжнацыянальных адносін у рэспубліцы. Усталяванне дзяржаўнасці беларускай мовы. Перспектывы СНД і роля ў іх Беларусі. Узаемаадносіны РБ з далёкімі і блізкімі суседзямі, і як гэта адбіваецца на лёсе беларускай дыяспары. Адраджэнне Беларускага войска. Магчымасць рэферэндуму і сітуацыя ў рэспубліцы.**

**Гэтыя і многія іншыя праблемы, як сведчыць пошта «Звязды», хвалююць жыхароў рэспублікі. А што думае наконт гэтага Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧ?**

**СЕННЯ**

**з 15 да 16 гадзін ён чакае вашых пытанняў.**

**Званіце па тэлефонах: 32-38-21; 32-51-05.**

**Запіс «прамой лініі» будзе апублікаваны ў «Звяздзе».**

## ГАНДАЛЬ ПА-ЦЫРКАВОМУ

**МІНСК. Адным мастацтвам сыты не будзеш — гэта аксіёма сённяшняга нашага жыцця. І хоць папулярнасць Мінскага дзяржаўнага цырка пастаянныя катаклізмы не змяншаюць, тым не менш і яму даводзіцца шукаць спосабы выжывання. У прыватнасці, цырк заключыў дагаворы з трыма гандлёвымі фірмамі—«Гамаюн», «Белсіб» і «Стынд»—аб адкрыцці ў сваім памяшканні гандлёвага цэнтра. Дзве з іх гандлююць за валюту. У бліжэйшым будучым маюць намер распачаць гандаль яшчэ два магазіны. Вось так, без фокусаў не абысціся.**

## ЛЕС ПАСЫПАЕ ПОПЕЛАМ ВЕРШАЛІНЫ

**Больш трох з палавінай тысяч выпадкаў узгарання лясных масіваў у рэспубліцы — такі вынік гарачых летніх дзён і людской бесклапотнасці.**

У гэтыя дні часцей за ўсё гараць забалочаныя ўчасткі лесу, чарнічнік. Лясныя пажары, акрамя прамога матэрыяльнага ўрону, нясуць і радыектыўную небяспеку, бо кожны чацвёрты гектар беларускага лесу заражоны радыенуклідамі.

Палаюць пажары не толькі ў Беларусі. Напрыклад, у Латвіі ўжо выгарала 5 тысяч гектараў лясных насаджэнняў.

**Анатоль КУЛЯШОЎ. (БелаПАН).**



**Бадай, няма такой вылічальнай машыны, якая магла б падлічыць бясконцасць клопатаў калгаснага старшыні ў гэтыя дні. З раніцы да позняга вечара яму даводзіцца вырашаць безліч усялякіх праблем. Але ёсць і светлыя хвілінкі. Для старшыні калгаса «Чырвоны сцяг» Дзяржынскага раёна Уладзіміра Войцехавіча Мінько самай хвалюючай падзеяй года з'яўляецца пачатак жніва. Гул камбайнаў гучыць для яго сэрца, як цудоўная музыка.**

**Чатырнаццаты год ён узначальвае гаспадарку, добра ведае людзей, упэўнены ў іх надзейнасці, але зноў і зноў удакладняе нейкія пытанні, раіцца з камбайнерамі, аграномамі. Вось і цяпер ён цёпла павіншаваў механізатараў з пачаткам жніва, пажадаў ім моцнага здароўя.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшыня калгаса Уладзімір МІНЬКО гутарыць з камбайнерамі Леанідам ЕНІНЫМ, Аляксандрам ІВАШЫНЫМ, Віктарам ЗЯБОРАМ; першыя цэнтнеры новага ўраджаю.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



# Увасабленне ідэі незалежнасці на Беларусі

**У сувязі з гадавінай абвяшчэння Незалежнасці Беларусі рэдакцыя вырашыла надрукаваць матэрыял, падрыхтаваны навукоўцамі Інстытута гісторыі АН Беларусі.**

**Аўтары — дактары гістарычных навук Л. М. Лыч, У. А. Палуян, Г. В. Штыхаў, кандыдаты гістарычных навук П.К. Башко, Г. Я. Галенчанка, А. М. Літвін, У. Г. Філякоў. Матэрыял падрыхтаваны пры ўдзеле і пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта АНБ М. П. Касцюка.**

Імкненне да стварэння дзяржаўнасці ўласціва многім народам, у першую чаргу тым, якія асэнсавалі сябе самастойным этнасам. Усходніх славян, у тым ліку беларусаў, імкнуліся нярэдка залічыць да тых народаў, дзе ўсе формы дзяржаўнага жыцця быццам былі прынесены звонку — нарманамі, літоўцамі, далей палякамі і рускімі, якія здолелі раней, чым іншыя славяне, стаць на шлях утварэння сваіх дзяржаў. У завуаліраванай форме ці шляхам замоўчвання фактаў такія думкі падтрымліваюцца да цяперашняга часу.

Палітычны лёс Беларусі — сапраўды драматычны. Аднак з гэтага зусім не вынікае, што беларускі народ да найноўшага часу не імкнуўся да незалежнасці, не меў уласнай дзяржаўнасці, а ў сярэднія вякі вымушаны быў забяспечваць сацыяльнае развіццё з дапамогай суседзяў. Звернемся да гістарычных фактаў пра паходжанне беларусаў і беларускай дзяржаўнасці.

Перадумовы ўзнікнення беларускага этнасу маюць свае асаблівасці і ўзыходзяць да ранняга сярэднявечча, якое пачалося ў VI стагоддзі, калі славяне рассяляліся ў Верхнім Падняпроўі і суседніх абласцях. У выніку інтэнсіўнага асваення славянамі тэрыторыі Беларусі ў VIII—IX стагоддзях сфарміраваліся этнічна блізкія паміж сабою групы ўсходнеславянскага насельніцтва: крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы. На іх аснове потым утварыўся старажытнабеларускі этнас. Ён кампактна размяшчаўся ў Верхнім Падняпроўі, Падзвінні, Панямонні. У яго фарміраванні прынялі ўдзел прадстаўнікі некаторых неславянскіх этнічных утварэнняў. Сярод іх яцвягі і іншыя балцкамоўныя плямёны. Межы беларускага этнасу, які складваўся на працягу многіх стагоддзяў, шырэйшыя, чым сучасная тэрыторыя Рэспублікі Беларусь.

Увасабленне ідэі незалежнасці і пачатак дзяржаўнасці на Беларусі маюць больш чым тысячагадовую гісторыю. Моцным княствам у X—XIII стагоддзях з'яўлялася Полацкая зямля. «Землямі» тады называліся сярэднявечныя дзяржавы. Гістарычным ядром гэтай дзяржавы было племяннoе княжанне крывічоў-палачан больш ранніх часоў. Полацкая зямля па памерах пераўзыходзіла плошчу некаторых значных каралеўстваў Заходняй Еўропы. У Полацку існавала мясцовая княская дынастыя, правы якой прызнаваліся і захоўваліся на працягу многіх пакаленняў. Імёны яе найбольш вядомых прадстаўнікоў X стагоддзя — Рагвалода, Рагнеды, Ізяслава — неад'емныя ад старажытнай гісторыі Беларусі.

Аб стабільным сацыяльным і палітычным развіцці Полацкай зямлі сведчыць тое, што на працягу ўсяго XI стагоддзя тут правілі толькі два князі Брачыслаў і яго сын Усяслаў Чарадзей. Пры Усяславе Полацкая дзяржава дасягнула найбольшай магутнасці. Полацк на працягу некалькіх стагоддзяў быў стольным яе горадам са сваёй княскай дынастыяй, вечавым ладам, моцным войскам.

Важную ролю выконвала і Тураўскае княства. Яно ўзнікла ў басейне Прыпяці ў канцы X стагоддзя на тэрыторыі расслення дрыгавічоў. У XI стагоддзі двум тураўскім князям, паводле дзеючага права атрымання спадчыны, даводзілася пераходзіць з Турава на вялікае княжанне ў Кіеў, захоўваючы за сабой уладу ў Тураве праз сваіх пасаднікаў. У 50-я гады XII стагоддзя Тураў выйшаў канчаткова з падпарадкавання Кіеву і ў ім усталявалася самастойная княская дынастыя.

Полацкае і Тураўскае княствы з'яўляюцца вытокам беларускай дзяржаўнасці, увасабленнем ідэі незалежнасці беларускага этнасу. Яны былі цэнтрамі прыцягнення беларускіх зямель.

У цеснай сувязі з Туравам і Кіевам быў горад Бярэсце — важны цэнтр Сярэдняга Пабужжа. Вакол яго існавалі гарады Кобрын, Камянец і іншыя. Гэтая тэрыторыя, аб'яднаная вакол свайго галоўнага горада Бярэсце, складала даволі адзіную ў сацыяльна-палітычных і геаграфічных адносінах вобласць. Бярэсце карысталася значнай самастойнасцю ў складзе Уладзіміра-Валынскага княства ў XII—XIII стагоддзях. Фактычна ўлада ў гэтым горадзе-дзяржаве належала мясцоваму вечу, з сілай якога вымушаны былі лічыцца як валынскія, так і польскія князі, што пацвярджаецца паведамленнямі Іпацьеўскага летапісу.

Усходнія славяне ў канцы I тысячагоддзя асвойвалі землі Беларускага Панямоння. Археалагічныя даследаванні паказалі, што найбольш старажытнымі беларускімі гарадамі тут з'яўляюцца Навагрудак (у старажытнасці Наваградак), Ваўкавыск, Гродна (Гародня). Яны ў XII—XIII стагоддзях былі цэнтрамі феадальных княстваў.

У 50—70-я гады XIII стагоддзя Панямонне стала арэнай барацьбы паміж галіцка-валынскімі і літоўскімі князямі. Для яе зыходу важнае значэнне мела пазіцыя мясцовых феадалаў, улік іх інтарэсаў. У 1252 годзе, як паведамляе летапіс, у сваёй рэзідэнцыі Навагрудку каранаваўся і прыняў тытул караля князь Міндоўг. Яму ўдалося стварыць адносна адзіную дзяржаву, якая паслужыла асновай Вялікага княства Літоўскага.

Працяглая барацьба галіцка-валынскіх князёў з Вялікім княствам Літоўскім закончылася перамогай апошняга. Падначаленне адзінай уладзе невялікіх княстваў Верхняга Панямоння спыніла працэс феадальнага драблення і садзейнічала інтэграцыі насельніцтва Беларусі з суседнімі народамі ў межах адной дзяржавы.

Дасягнуты ўзровень сацыяльнага і палітычнага развіцця Полацкага і Тураўскага княстваў X—XI стагоддзяў, а пазней Берасцейскага, Гарадзенскага, Навагрудскага, Слонімскага і іншых княстваў стаў асновай увасаблення ідэі незалежнасці, дзяржаваўтваральных працэсаў на беларускіх землях.

**(Працяг на 2-й стар.).**

## РАДЫЁФАКТ

Медыкі нашай рэспублікі гатовы пачаць даследаванні ў раёнах, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі, па спецыяльных праектах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Праграмай прадугледжана пастаўка сучаснай апаратуры і рэагентаў амаль на 20 мільёнаў долараў.

***

Еўрапейскае эканамічнае супольніцтва вырашыла выдзеліць сродкі на будаўніцтва і аснашчэнне завода дзіцячага харчавання ў Мінску. На бліжэйшым пасяджэнні будзе вызначана фірма, якая самастойна вывучыць патрэбнасці рэгіёна ў дзіцячым харчаванні. Аб'ект уключаны ў дзяржаўны заказ Галоўмінбуда і праграмы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

***

«Радыёфакт» ужо звяртаўся да праблем забеспячэння жыхароў нашай рэспублікі цукрам. Напэўна, вам цікава ведаць, як абстаяць справы ў Расіі. За першыя пяць месяцаў гэтага года насельніцтва Расіі купіла цукру на 802 тысячы тон менш, чым за той жа перыяд мінулага года, паведамляе Дзяржкамстат Расійскай Федэрацыі. Адна з прычын такога становішча — скарачэнне вытворчасці цукру-сырцу на 9 працэнтаў. Павелічэнне закупак гэтай сыравіны за рубяжом вынікаў пакуль што не дало.

***

Ноччу па Томску свабодна гулялі леў і два мядзведзі. Злавіла начных падарожнікаў міліцыя з дапамогай брызенту. Сур'ёзна пацярпець ніхто не паспеў. Праўда, цара звяроў, загнанага ахоўнікамі парадку ў кусты, ударыў п'яны, які там адпачываў, за што леў яго крыху пакусаў.

# Беларускія прыгажуні

**ў палітыка-крымінальным дэтэктыве з удзелам спецслужбаў і дыпламатаў Беларусі, Расіі, Югаславіі і Румыніі**

**Апошнім часам у рэспубліцы праводзіцца шмат конкурсаў прыгажосці, якія карыстаюцца павышанай увагай прыгожых дзяўчат. Калі раней удзельніцам і пераможцам даставаліся апладысменты, слава і больш-менш дарагія прызы, то цяпер да ўсяго гэтага дадалася перспектыва трапіць праз конкурс на Захад і зарабляць там у якасці, напрыклад, фотамадэлі па некалькі дзесяткаў долараў у дзень. Прычым размова не пра адзінкі ашчаслівленых каралеўнаў, а цэлыя іх каманды.**

**Адна з такіх шматлікіх «доларавых» груп адправілася за мяжу літаральна днямі. А далей пачалася гісторыя, якая працягваецца і сёння. Яе незавершанасць не дазваляе зараз рабіць нейкія канчатковыя вывады, аднак ёсць выдатная інфармацыйная падстава пачаць сур'ёзную размову аб гэтай новай з'яве ў нашым жыцці.**

**Сёння мы друкуем дакументы, прадастаўленыя рэдакцыі афіцыйнымі органамі. Па іх чытач зразумее сутнасць канфлікту. Ну а чым ён завершыцца, мы паведамім крыху пазней, калі «гераіні», спадзяёмся, вернуцца дадому (па вядомых прычынах, прозвішчы «герояў» не ўказваюцца).**

**СТАРШЫНІ КДБ РБ**
**ЗАЯВА**

У першых чыслах мая 1992 года ў Мінску, УБЦМ, праходзіў конкурс прыгажосці. Б. Б. увайшла ў дзесятку лепшых. Пасля гэтага яе запрасіў Варламаў у сваё рэкламнае агенцтва. Каля месяца яна і іншыя дзяўчаты займаліся там: ставілі паходку, вучыліся рухацца і танцаваць. Потым Варламаў сказаў, што прыйшло запытанне з Аўстрыі для работы манекеншчыцамі. На працягу двух тыдняў ён зрабіў дзяўчатам замежныя пашпарты і прадаставіў кантракты, дзе ўказвалася: яны будуць працаваць у Аўстрыі. Пражыванне і харчаванне за кошт фірмы, плюс 75—85 долараў ЗША выплачваецца штодзённа. Таксама ў кантракце былі такія пункты, што калі дзяўчына будзе заўважана з якім-небудзь мужчынам, то ў першы раз штраф — 1.000 (адна тысяча) долараў ЗША, калі ж дзяўчына будзе заўважана ў другі раз, то яе вышлюць з краіны з чорным штампам. Ну як тут было не паверыць Варламаву? І, натуральна, дзяўчаты пагадзіліся на такія ўмовы, вінаваціць іх у непрадбачлівасці было неправамерна.

Восьмага ліпеня 1992 года яны вылецелі ў Кішынёў, каб там пераначаваць і раніцай на аўтобусе, які прыйдзе з Югаславіі, паехаць далей. Ім было сказана, што ў Варламава добрыя сувязі з Югаславіяй, дзе яму працей зрабіць візы ў Аўстрыю. Пяць дзён (да 13 ліпеня) дзяўчаты чакалі аўтобуса з Югаславіі. Як толькі прыехалі туды, іх раздзялілі і развялі на розныя вілы, заявілі: або будуць працаваць у бардзелях прастытуткамі, або больш ніколі не трапяць дамоў.

Усё гэта я пішу са слоў маёй дзяўчыны. Як высветлілася, Аўстрыяй там нават не пахла, а ўсё гэта было зроблена для таго, каб заманіць іх у Югаславію.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

РЭПАРТАЖ З ЭКЗАМЕНУ

# ЦІ ПЕРАШКОДЗІЦЬ НЬЮТАНУ РОДНАЯ МОВА?

**З гэтага года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на ўсіх факультэтах уведзены ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры**

**Раз-пораз чуецца: ці не рана? Ці гатовы абітурыенты? «Ну добра гуманітарыі, а ці трэба здаваць такі экзамен, скажам, фізікам: мо сярод іх ёсць патэнцыяльны Ньютан, а мы з-за дрэннага ведання мовы пакінем яго за межамі ВНУ? Як бы чаго не выйшла!..»**

Самае дзіўнае — сумненні наконт абумоўленасці такога кроку гучаць часцей не ў асяроддзі абітурыентаў і іх бацькоў, а сярод людзей, знаёмых з праблемай, так бы мовіць, чыста «тэарэтычна»: калі яны самі мовы не ведаюць, значыць і ўсе вакол таксама не ведаюць — так што нічога не трэба, і кропка...

Паколькі многія тэхнічныя ВНУ рэспублікі, як і летась, абмежаваліся беларускім залікам, мы вырашылі паглядзець, як здаюць экзамен па роднай мове і літаратуры менавіта «фізікі» — абітурыенты факультэта радыёфізікі і электронікі БДУ.

Дзеля справядлівасці скажу, што атрымаць дазвол папрысутнічаць на экзамене аказалася справай няпростай: староннія на іспыты не дапускаюцца — каб не было нічога-ніякага... Рэктар універсітэта Ф. Капуцкі і дэкан філалагічнага факультэта А. Лойка, крыху павагаўшыся, вырашылі ўсё ж пайсці насустрач прэсе.

...У калідорах галоўнага корпуса атмасфера ўрачыста-ўсхваляваная. Нягледзячы на конкурс, канкурэнцыю ведаў і адзнак, абітурыенты шчодра даюць адзін аднаму парады, тлумачаць незразумелае, зубрацьнедавучанае, ліхаманкава гартаюць падручнікі. А нехта, забраўшыся ў самы далёкі куточак, дапісвае шпаргалку («З ёю спакайней, яна душу саграе!..»).

Яны ведаюць — у экзаменацыйным білеце тры пытанні: два па літаратуры (паэзія і проза) і па мове. Акрамя таго, даецца сказ для сінтаксічнага разбору.

У аўдыторыі, дзе экзамен прымаюць Л. Антанюк і А. Верабей, атмасфера спакойная і добразычлівая. Але абітурыенты ўсё роўна хвалююцца. Яўген Кот няблага валодае роднай мовай, толькі зрэдку ўжывае рускія словы. Ён прааналізаваў сучасную беларускую прозу (творы В. Быкава, І. Навуменкі, А. Адамовіча), расказаў пра дзеепрыметнік, разабраў сказ, але пэўныя цяжкасці ўзніклі з «Песняй пра зубра» М. Гусоўскага — атрымаў «чацвёрку». Пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча цікава расказвае Андрэй Бандарэнка, але трохі «паплаваў» у лірыцы Аркадзя Куляшова — таксама «чацвёрка».

Больш за дзве гадзіны правяла я на экзамене — адказы былі ў асноўным роўныя, гучалі па-беларуску. Добрыя адзнакі атрымалі Барыс Шыкло, Андрэй Сяржантаў, Павел Кур'ян. А адказ Дзмітрыя Губскага экзаменатары слухалі проста з задавальненнем. Хлапец падрабязна расказаў пра лірыку Янкі Купалы, прысвечаную тэме адраджэння, прыгожа чытаў урыўкі з паэмы «Курган», вершаў «Выйдзі», «За ўсё». Адчуваецца, юнак любіць і ведае паэзію — а яшчэ гавораць, быццам «фізікі» да лірыкі не здатныя!.. Выдатна прааналізаваў Дзіма і прозу М. Лынькова. Экзаменатары не вытрымалі — пацікавіліся, дзе ён вучыўся.

— Скончыў 53-ю мінскую школу. Родную мову і літаратуру вяла вельмі добрая настаўніца — Людміла Яўгенаўна Герасімовіч.

...Скажу шчыра: ідучы на беларускі экзамен да «фізікаў», я чакала ўбачыць намнога горшую карціну.

— Мне выпадкова пашанцавала ці ўжо сталі заканамернасцю такія цвёрдыя адказы? — запытала ў экзаменатараў.

— Пакуль яшчэ не ўсе абітурыенты выдатна падрыхтаваныя — не заўсёды належны ўзровень ведаў дае школа. Не ўсе свабодна валодаюць беларускай мовай: некаторыя просяць прабачэння і адказваюць на рускай. Аднак у цэлым сапраўды надзвычай зацікаўленае стаўленне да роднай мовы і літаратуры, — сказала выкладчык Любоў Антанюк.

— Няўжо няма ніводнай «двойкі»?

— На факультэце радыёфізікі і электронікі — няма. Сюды паступаюць моцныя, падрыхтаваныя выпускнікі, яны звычайна добра займаліся па ўсіх прадметах. Праўда, на фізічным факультэце дзве «двойкі»: адзін юнак наогул адмовіўся адказваць, хаця яму прапаноўвалі выцягнуць другі білет. Другі прынёс з сабою камп'ютэрную копію падручнікаў і, не саромеючыся, пачаў перапісваць.

— А як з тымі, хто па нейкай прычыне не вывучаў мову, у каго ў атэстаце няма адзнакі?

— Яны пісалі сачыненне па рускай літаратуры, але такіх няшмат.

— Хто можа быць лепшым экспертам, як самі абітурыенты?

— А можа, лепш бы сачыненне пісаць?

— Не, мы за вусны экзамен: пашыраецца кругагляд, больш чытаеш, каб грунтоўна адказаць на пытанні. Дый адзнака ставіцца аб'ектыўна: мы ж адказваем на тры пытанні, а не на адно, як у сачыненні.

Вось, калі ласка, меркаванні галоўных «экспертаў». Дык чаго мы баімся-палохаемся? Родная мова, як бачым, ньютанам не перашкаджае. А магчыма, наадварот, яны дапамогуць яе ўкараненню не толькі ў штодзённы, але і ў прафесіянальны ўжытак. Цікавую думку выказала намеснік адказнага сакратара прыёмнай камісіі Белдзяржуніверсітэта Лілія Мар'іна:

— Мне здаецца, менавіта моладзь прынясе ў вышэйшыя навучальныя ўстановы родную мову — і нават прымусіць нас, выкладчыкаў, перайсці на беларускамоўнае выкладанне. У нас ёсць прыклады, калі самі студэнты выходзілі з такімі прапановамі.

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

# Увасабленне ідэі незалежнасці на Беларусі

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Ва ўмовах барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай мангола-татарскіх нашэсцяў у XIII—XIV стагоддзях ідэя незалежнасці атрымала на беларускіх землях характэрнае ўвасабленне. Узнікла новая моцная поліэтнічная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае. Яе межы ў часы найбольшага пашырэння распасціраліся ад Балтыкі да Паўночнага Прычарнамор'я.

Дзякуючы ўмелай палітыцы вярхоўнай улады, гаспадарскай рады, дзе супрацоўнічалі найбольш уплывовыя колы рознага этнічнага паходжання і канфесійных поглядаў, ВКЛ не толькі здолела абараніць сваю незалежнасць у складаных умовах, але ператварыцца нават у XIV—XV стагоддзях у адзін з асноўных цэнтраў кансалідацыі заходнярускіх, інакш кажучы—беларускіх, украінскіх, а часткова і рускіх зямель і княстваў. Адметнымі вехамі ў гэтай сумеснай барацьбе за незалежнасць, супраць пагрозы знешняй агрэсіі і экспансіі сталі гераічная абарона заходнебеларускіх земляў Давыдам Гарадзенскім у XIV ст., Грунвальдская бітва народаў 1410 г., у якой удзельнічалі шматлікія беларускія і літоўскія харугвы пад велікакняскімі гербамі «Пагоня» і «Калумны», і іншыя падзеі.

Заключэнне палітычнага саюза ВКЛ з Польшчай у канцы XIV ст. (Крэўская ўнія 1385 г.) умацавала заходнія межы княства і фактычна выключыла магчымасць маштабных ваенна-палітычных канфліктаў паміж буйнейшымі дзяржавамі Еўропы. Люблінская унія 1569 г. і ўтварэнне федэратыўнай Рэчы Паспалітай адкрыла шлях да яшчэ большага палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага збліжэння Польшчы і ВКЛ. Ідэя незалежнасці Беларусі, якую падтрымлівалі пэўныя слаі беларускага грамадства на ўсіх этапах гісторыі ВКЛ, у значнай ступені рэалізавалася праз дзяржаўныя інстытуты княства.

Высокі ўзровень развіцця ўсходнеславянскіх зямель, якія складалі большую частку тэрыторыі ВКЛ, абсалютная перавага ўсходнеславянскага этнасу ў яго насельніцтве садзейнічалі таму, што беларускія землі адыгрывалі вядучую ролю ў дзяржаўнай гаспадарцы, а культура Беларусі — у духоўным жыцці ўсяго княства (пераважна ў нетрадыцыйных яе сферах — дзяржаўнай мове, заканадаўстве, канцылярскай пісьменнасці, кнігадрукаванні і інш.).

У гісторыю сусветнай цывілізацыі ВКЛ увайшло як адна з першых еўрапейскіх дзяржаў, якая стварыла унікальны ўзор палітычнага і грамадскага ладу, прававой дэмакратыі, талерантнасці, мірнага суіснавання, супрацоўніцтва розных этнасаў і царкоўна-рэлігійных сістэм, што дазволіла пазбегнуць грамадзянскіх і сялянскіх войнаў у іх класічным выглядзе.

Нядаўна вядомыя гісторыкі Беларусі і Літвы ў выніку плённай навуковай дыскусіі прыйшлі да высновы, што дзве суверэнныя дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і Літоўская Рэспубліка — з'яўляюцца прамымі спадкаемцамі гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якое павінна вызначацца як літоўска-беларуская або — раўназначна — беларуска-літоўская дзяржава, пры ўліку важкага ўкладу, які працяглы час уносіў у палітычнае і культурнае развіццё Вялікага княства Літоўскага ўкраінскі этнас.

**(Заканчэнне будзе).**

## МЕРКАВАННЕ ЭКАНАМІСТА

**На пачатку ліпеня рэспубліканскія газеты надрукавалі інфармацыю аб выніках работы народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь у студзені—маі 1992 года. Прыводзіліся лічбы і выказвалася супакаенне, што Беларусі пакуль што ўдаецца стрымліваць абвальнае падзенне вытворчасці і ўзроўню жыцця насельніцтва. Маўляў, зніжэнне нацыянальнага даходу ў нас было найменшым сярод усіх рэспублік СНД. Такая выснова з'ўляецца маласуцяшальнай, бо ў студзені—маі скарачэнне вытворчасці нацыянальнага даходу дасягнула аж 15 працэнтаў. Ці можа быць тут аптымізм? Тым болей, што гэтая тэндэнцыя працягваецца. Аб шматлікіх прычынах такога стану нашай эканомікі нямала напісана і сказана. Але сярод іх ёсць адна, як кажуць, краевугольная—у дзяржавы няма ўласных грошай.**

# АД РАЗЛІКОВЫХ БІЛЕТАЎ— ДА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮТЫ

ПРАЎДА, з 25 чэрвеня ў абарачэнне выпушчаны разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Але гэтыя білеты не з'ўляюцца грашыма ў эканамічным сэнсе, бо не маюць функцый накаплення. Людзі імкнуцца як найхутчэй збыць іх з рук, а расійскія асігнацыі прытрымліваюць.

Узнікае пытанне, чаму адсутнасць нацыянальных грошай адмоўна адбіваецца на эканоміцы краіны? Справа ў тым, што ва ўсякай грамадскай вытворчасці, дзе абмен тавараў адбываецца пры пасрэдніцтве грошай, любы прадукт, паколькі ён выраблены на спецыялізаванай вытворчасці і не прызначаны для ўласнага спажывання, прымае дзве формы: натуральную (спажывецкую) і вартасную (грашовую). Прычым цана, як грашовая выява вартасці, далёка не заўсёды адпавядае самой вартасці, асабліва падчас дэфіцыту. Менавіта праз гэтую дваістасць прадукту, які стаў таварам не толькі ў нас, але і за межамі нашай дзяржавы, і адбываецца ўплыў (у дадзеным выпадку адмоўны) на нашу эканоміку. Так што менавіта праз грошы, адзіную рублёвую прастору абвал эканомікі з іншых дзяржаў СНД непазбежна прыйдзе і прыходзіць ужо і на нашу зямлю. Няхай ніхто не сумняваецца ў гэтым.

КІРУЮЧЫЯ колы рэспублікі доўгі час адмаўлялі неабходнасць увядзення нацыянальных грошай, і мы страцілі марна шмат часу. Цяпер ёсць прыхільнікі яшчэ пачакаць, пакуль замацуецца рубель у суседняй Расіі. Маўляў, Захад ахвяруе 6 млрд. долараў (праўда, у пазыку з немалымі працэнтамі) пад стабілізацыю рубля, каб ён стаў канверсуемым хоць бы ўнутры Расіі, а значыць, і ў нас. Наіўныя разлікі! Для такой аграмадзіны, як Расія, — усяго 6 млрд. долараў. У імгненне вока яны будуць праглынуты, не зрабіўшы чаканага эфекту. Гэта прызнаў нават Б. Ельцын у выступленні на прэс-канферэнцыі ў Мюнхене. Уявіце. ФРГ уклала ў эканоміку Усходняй Германіі за кароткі час, каб яе хоць крыху падраўняць, дзесяткі (дзесяткі!) мільярдаў марак ды яшчэ наважваецца інвесціраваць у бліжэйшы час звыш 100 мільярдаў. А тут нейкіх 6 мільярдаў для Расіі.

Апраўданняў марудлівасці і непаваротлівасці па ўвядзенню нацыянальнай валюты няма, ёсць толькі тлумачэнне. Яно заключаецца ў тым, што ўвядзенне беларускіх грошай — комплексная праблема. Гэта цэлы вузел, развязаць які няпроста. Найперш трэба дамовіцца з усімі дзяржавамі СНД аб курсе талера (калі так будуць называцца нашы грошы). Грашовую рэформу трэба задумаць і правесці так, каб паўздзейнічаць на зніжэнне інфляцыі. Новыя грошы не могуць адмоўна паўплываць на сацыяльнае становішча маламаёмасных груп насельніцтва. Талеры павінны не стрымліваць прыватызацыю, а аднолькава абслугоўваць як прыватны, так і дзяржаўны сектар, паколькі апошні ў пэўных межах (напрыклад, 25—30 працэнтаў нацыянальнай вытворчасці) павінен абавязкова заставацца. У гэтым кірунку не трэба мець аніякіх ілюзій. Пералік праблем, звязаных з увядзеннем нацыянальнай валюты, можна доўжыць. Па гэтай прычыне ўрад марудзіў і марудзіць сёння з нацыянальнай валютай. Але далей захоўваць становішча ўжо немагчыма. На захадзе, поўдні і поўначы ад нашай рэспублікі дзейнічаюць або пачынаюць дзейнічаць нацыянальныя валюты. І адтэрміноўваць грашовую рэформу болей нельга, бо яна проста стукае ў дзверы.

Спазніцца — значыць нанесці вялікія страты эканоміцы Беларусі і яе народу. Сапраўды, прэзідэнты Б. Ельцын і Л. Краўчук дамовіліся аб увядзенні нацыянальнай валюты на Украіне. Расія лічыць мэтазгодным, каб Украіна вярнула Расійскаму нацыянальнаму банку пэўна сотні мільярдаў рублёў пасля абмену іх на грыўны. Незразумела, на якой падставе Украіна перадасць рублі Расіі, каб яны потым маглі быць прад'яўлены праз розныя каналы (гандаль, турызм, утрыманне войска) у адпаведнасці з валютным курсам грыўны на абмен. Украіна абмененыя грошы можа толькі прадаць Расіі. У любым выпадку «драўляныя» рублі хлынуць на шматпакутную Беларусь. А тут яшчэ некаторыя кіраўнікі рэспублікі заяўляюць, што паступленне грошай не страшнае для нас, бо наяўнасць у нас у дэфіцыце. Было б так, каб разам з грашыма паступалі тавары, а не адны паперы. Божа, зберажы Беларусь ад грашовай навалы!

Мы пісалі ўжо, што прадстаўнікі ўрада доўгі час лічылі немагчымым увесці нацыянальную валюту, бо Расія пачне прадаваць сыравіну, найперш паліва, па сусветных цэнах ды яшчэ за валюту, якой у нас няма. Няўжо і зараз мы купляем нафту (прыкладна 2.000 рублёў за тону) не па сусветных цэнах? Канешне, калі пералічыць цану ў адпаведнасці са спекуляцыйным курсам долара (1 долар—135 рублёў), то гэта мала. Але калі супаставіць рэальныя цэны ў нас і на Захадзе, то якраз, калі не занадта. У валютных магазінах ляжаць тавары, цэны на іх прыкладна сусветныя. Адна пляшка гарэлкі каштуе дзесьці 5 долараў, а ў нас — 100 рублёў. Калі перавесці цану гарэлкі ў валютным магазіне на рублі, то атрымліваецца дзіўная цана—675 рублёў. Можна прывесці дзесяткі прыкладаў таго, што курс долара і іншых валют з'ўляецца спекуляцыйным, ён выкарыстоўваецца для «ачышчэння» нашага ўнутранага рынку ад тавараў. І, наогул, няўжо лідэрам Беларусі незразумела, што калі нас не хочуць выпускаць з рублёвай прасторы, то гэта некаму выгадна, ды толькі не нам.

Спекуляцыйны курс долара падштурхоўвае інфляцыя, якой ні ў нас, ні ў Расіі без грашовай рэформы не пераадолець. Невыпадкова кіраўнікі Расіі неаднаразова заяўлялі аб магчымай грашовай рэформе.

Увядзенне нацыянальнай валюты дасць магчымасць выкарыстаць той узровень матэрыяльнай вытворчасці, які ў нас дасягнуты, і ўстановіць не тое, што выгадна, а проста справядлівы курс талера. Паводле статыстычных публікацый ААН і яе арганізацый, вытворчасць валавога ўнутранага прадукту (ВУП) у 1990 годзе на душу насельніцтва склала на Беларусі 5.706 долараў у год у цэнах 1985 года, або 31,1 працэнта да ўзроўню ЗША. Па вытворчасці ВУП Рэспубліка Беларусь разам з Латвіяй і Эстоніяй знаходзяцца на ўзроўні Грэцыі, Паўднёвай Карэі, Чэха-Славакіі і Венгрыі. Для параўнання, у нашых суседзяў вытворчасць ВУП у тым жа 1990 годзе склала: у Польшчы —толькі 21,3 працэнта ад узроўню ЗША, на Украіне—25,3 працэнта, у Літве — 26,3 працэнта. Важна так правесці грашовую рэформу, каб не адкаціцца назад, а пайсці наперад.

Грашовая рэформа, непазбежнасць якой прызнае зараз і ўрад у нядаўна апублікаваным выкладанні эканамічнай праграмы, павінна быць скіравана на пераадоленне інфляцыі, аб наступствах якой можна не гаварыць. Яны вядомыя. Задача заключаецца ў тым, як яе перамагчы і якая тут можа быць роля грашовай рэформы. Калі грашовая рэформа будзе праведзена па ўзору Эстоніі (дзе за межамі пэўнай сумы абмену рублёў на кроны каэфіцыент абмену мяняўся не на карысць трымальнікаў вялізнай сумы грошай), то гэта адразу адсячэ значную масу «драўляных» купюр. Але гэта разавы ўдар па інфляцыі. Трэба зрабіць ціск на інфляцыю бесперапынным. Дзеля гэтага неабходна карэнным чынам змяніць ролю ўсёй крэдытна-фінансавай сістэмы. У гэтым бачыцца комплексны характар грашовай рэформы. Напрыклад, Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь трэба надаць ролю кантралёра і вядучага звяна крэдытна-фінансавай сістэмы. У рэальным жыцці камерцыйныя банкі, а іх на Беларусі ўжо 25, выкарыстоўваючы мультыплікатар (памнажальнік) грашовай прапановы, ствараюць залішнія грошы. Адбываецца гэта так. Адзін камерцыйны банк прыняў уклады і выдаў іх на крэдыт. Грошы ўжо амаль падвоіліся. Затым атрыманыя па крэдыту грошы, абслужыўшы таварны рынак, трапляюць у другі банк, які таксама выдае крэдыт, і г. д. Каб прадухіліць множанне грошай, Цэнтральны банк павінен запатрабаваць ад камерцыйных, як гэта робіцца ва ўсіх развітых краінах свету, штодзённай інфармацыі аб дэпазітах, рэзервовых фондах, маржы і стаўцы працэнта з мэтай рэгулявання камерцыйнай дзейнасці ўсёй банкаўскай сістэмы. І няхай камерцыйныя банкі не ўспрымаюць рэгламентацыю іх дзейнасці з боку дзяржаўных банкаў як нейкі ўціск.

Грашовую рэформу будзе праводзіць дзяржава, і яе абавязак—сачыць за тым, каб агромністыя масы грошай (а яны адлюстроўваюць грамадскае багацце) не канцэнтраваліся ў руках асоб, якія паразітуюць на дэфіцыце. На самай справе махляры і нуварышы, выкарыстоўваючы манаполію ў вытворчасці, купляюць вагоны цукру, гарэлкі, агародніны за крэдыты, якія невядома якім чынам атрымліваюць у банках, узнімаюць да нябёсаў рознічныя цэны і кладуць у кішэні вялікі куш. Апошні ёсць не што іншае, як вылік са сціплай заработнай платы рабочых, служачых і сялян. Зыходзячы з вопыту развітых краін, трэба, каб наш урад неадкладна ўстанавіў аптымальны ўзровень надбавак да цэн, па якіх тавар закуплены ў вытворцаў і перапрадаецца насельніцтву, або аптымальны памер прыбытку.

Правядзенне грашовай рэформы ў краіне некалькі аблегчана ўвядзеннем у абарачэнне разліковых білетаў. Спажыўцы прывыкаюць да іх як да беларускіх грошай.

**У. КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук, прафесар, член выканкома БСДГ, няштатны эканамічны агпядальнік «Звязды».**

## ПОГЛЯД НА ПРАБЛЕМУ

# БУДЗЕМ БЕЗ АБУТКУ, ЗАТОЕ З ЦЫГАРЭТАМІ, ГАРЭЛКАЙ І ЖАВАЛЬНАЙ ГУМКАЙ,

## АБО ДА ЯКІХ ПРЫЯРЫТЭТАЎ СХІЛЯЕЦЦА СФЕРА ПАСЛУГ ГРОДНА

Вырашыўшы нядаўна прывесці ў парадак свой абутак, я быў перакананы, што гэта не праблема. Як-ніяк, а лета — пара водпускаў, чэргаў у майстэрнях быць не павінна, тым больш што іх непадалёк ад дому адразу дзве.

Спачатку накіраваўся на вуліцу Горкага. Аднак на дзвярах майстэрні мяне сустрэла аб'ява, якая прапанавала кліентам забраць здадзены сюды абутак у... іншым пункце. А гэты, відаць, сваё існаванне спыняе, што потым і пацвердзілася. Як растлумачылі ў гарвыканкоме, майстэрня была нерэнтабельнай, і спецыялісты, якія тут працавалі, пакінулі яе. Такім чынам, з рамонтам абутку на гэтай вуліцы, мяркуючы па ўсім, пакончана.

Але я ведаў, што побач, у адным з жылых будынкаў па вуліцы Даватара, размяшчаецца яшчэ адна майстэрня. Тут працаваў сапраўдны прафесіянал, паслугамі якога доўгі час карысталіся дзесяткі пастаянных кліентаў і ў якасці работы якога можна было не сумнявацца. Але што гэта? Шыльда паведамляе, што цяпер тут размяшчаецца камерцыйны магазін.

— А дзе ж абутковая майстэрня? — цікаўлюся ў дзяўчыны, якая сумуе ля прылаўка ў чаканні пакупнікоў.

Аказваецца, майстэрні ўжо больш не існуе, цяпер у гэтым памяшканні новыя гаспадары. Цікава, чым жа яны мяне ашчасліваць? Можа, такімі востра-дэфіцытнымі таварамі, без якіх сёння проста не пражыць і чаго больш нідзе ў горадзе не знойдзеш? Гэта было б хоць нейкай кампенсацыяй за ўзнікшыя з рамонтам абутку нязручнасці.

Аднак гэты магазін, як дзве кроплі вады, нагадваў дзесяткі іншых, якія сёння з'ўляюцца ў Гродна, быццам грыбы пасля дажджоў. Тыя ж цыгарэты, спіртное, жавальная гумка... Не, я не супраць камісійна-камерцыйнага гандлю. Што паробіш, калі вытворчасць не ў пашане і ўсім так хочацца гандляваць. Але мне, як кліенту сферы паслуг, хочацца, каб іх колькасць калі не пашыралася, дык, прынамсі, не скарачалася. Мне проста нявыгадна, калі чарговы «камок», (ад якога большасці гродзенцаў, упэўнены, ні холадна, ні горача) узнікае на «руінах» таго ж абутковага сервісу.

А здарылася гэта вельмі проста і па сённяшніх часах — традыцыйна. Памяшканне, аб якім ідзе гаворка, належыць жыллёва-будаўнічаму кааператыву. Раней яго кіраўніцтва нічога супраць абутковай майстэрні не мела. Іншая справа цяпер, калі ўладальнікі ўласнасці атрымалі права ўстанаўліваць за карыстанне памяшканнем любую арэндную плату. Вядома, што абутковаму сервісу, які ніколі, а тым больш цяпер, не мог пахваліцца вялікімі прыбыткамі, было не пад сілу канкурыраваць з камісійна-камерцыйным гандлем. І майстэрню проста выпхнулі за дзверы.

Разумею, што ў кааператыва ёсць поўнае права атрымліваць з уласнага памяшкання максімальную выгаду. Аднак наўрад ці гэтыя грошы вельмі ўжо істотна палепшаць становішча кожнага з жыхароў пяціпавярховага будынка. А вось тое, што яны страцілі, — відавочна. Цяпер ужо не адрамантуеш абутак, літаральна не адыходзячы ад дому. Яшчэ адна праблема, асабліва для пенсіянераў. Але гэта, відаць, не вартая ўвагі дробязь...

Раней як было? Будуецца прадпрыемства альбо інтэрнат на тысячу і больш работнікаў —там абавязкова павінна адкрыцца і нейкая ўстанова сферы паслуг. Каб дабіцца гэтага, улады пры адвядзенні ўчасткаў пад забудову асабліва не цырымоніліся: не хочаш — прымусім. Магчыма, гэта выглядала не вельмі дэмакратычна, але сфера паслуг пашыралася.

Цяпер прадпрыемствы — самі сабе гаспадары. Так і павінна быць. Але ці сталі лепш клапаціцца аб людзях? Мяркуйце самі. Інтэрнат па вуліцы Камарова паставілі на капітальны рамонт. Нічога не скажаш, добрая справа. Аднак пасля завяршэння рамонту ні прыёмнага пункта хімчысткі, ні абутковай майстэрні тут ужо... не прадугледжваецца.

Так, жыццё прымушае сёння лічыць кожны рубель і атрымліваць па максімуму за тую ж арэнду ўласных памяшканняў. Дзе ўжо тут прадпрыемствам службы быту цягацца са значна мацнейшымі фінансава камерцыйнымі структурамі. Але, прабачце, хто ж тады павінен задавальняць бытавыя патрэбы падначаленых кіраўніка, які, доўга не думаючы, ставіць крыж на прадпрыемстве сферы паслуг? І які жа трэба быць недальнабачным, каб у пагоні за імгненнай грашовай выгадай, у інтарэсах розных гандляроў і пасрэднікаў разбураць тое, дзе робіцца будзённыя, але такія неабходныя людзям справы?

Дарэчы, аб арэнднай плаце за карыстанне памяшканнем. Тут даходзіць да абсурду. Вось характэрны прыклад. Яшчэ ў 1974 годзе па вуліцы Урублеўскага ў Гродна пабудавалі гандлёвы цэнтр «Вясёлка». Пад адным дахам размясціліся прадуктовы магазін, аддзяленне сувязі, ашчадная каса, цырульня, майстэрня па рамонту абутку, рэстаран... Паколькі самым буйным з гэтых прадпрыемстваў з'ўляецца апошні, увесь будынак гарадскія ўлады перадалі на баланс трэста сталовых і рэстаранаў. Нягледзячы на тое, што ён не ўклаў ні капейкі ў гэту будоўлю, якая вялася за кошт дзяржкапіталаўкладанняў.

Доўгія гады асаблівых канфліктаў паміж суседзямі ў «Вясёлцы» не ўзнікала. Але нядаўна ўзаемаразуменне было парушана. Трэст сталовых і рэстаранаў запатрабаваў ад цырульні ў якасці арэнднай платы за карыстанне памяшканнем 200 рублёў за квадратны метр штомесяц. Для параўнання: летась яна складала 35 капеек.

Толькі за арэнду памяшкання (без уліку ацяплення, вады, энергазабеспячэння і іншых расходаў) гарбыткамбінату, у састаў якога ўваходзіць гэта цырульня, давядзецца штомесяц пералічваць трэсту 20 тысяч рублёў. Цырульня адразу стане настолькі стратнай, што яе будуць вымушаны закрыць, а ўсіх работнікаў звольніць.

І ў аб'яднанні «Праца», якому падпарадкоўваецца размешчаная ў «Вясёлцы» майстэрня па рамонту абутку, таксама былі шакіраваны прад'яўленым ультыматумам. Атрымліваецца, што цяпер на арэндную плату трэба накіроўваць каля ... 40 працэнтаў выручкі гэтай майстэрні.

І вось што тут вельмі важна падкрэсліць. За доўгія гады сумеснага пражывання трэст сталовых і рэстаранаў не ўклаў у рамонт памяшканняў цырульні і абутковай майстэрні ніводнага рубля, усё яны рабілі ўласнымі сіламі. Цяпер жа пачаўся сапраўдны эканамічны шантаж.

Дарэчы, адкуль узяліся гэтыя 200 рублёў за квадратны метр? Чаму менавіта столькі, а не 199 ці 500? За якія сродкі, укладзеныя рэстаранам на задавальненне агульных патрэб, павінны разлічвацца яго суседзі? Ніякіх тлумачэнняў ад кіраўніцтва трэста ў гарвыканкоме, дзе абмяркоўвалася гэта пытанне, не пачулі. Хутчэй за ўсё, у трэсце падлічылі страты рэстарана і вырашылі перакласці іх на плечы іншых.

У гэтым артыкуле закрануты толькі некаторыя з прычын, па якіх церпяць крах прадпрыемствы сферы паслуг. «Чорны» спіс, дарэчы, пашыраецца з кожным днём. Апошнім часам у Гродне спынілі існаванне 6 майстэрань па рамонту адзення аб'яднання «Сілуэт», 11 прыёмных пунктаў хімчысткі і мыцця бялізны (3 з якіх не прадугледжваюцца праектам пасля капітальнага рамонту памяшканняў), пральня самаабслугоўвання, 12 падраздзяленняў гарбыткамбіната... А што нас чакае заўтра?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

**Фотарэпартаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА**





**Буйная вытворча-будаўнічая фірма «Дарбуд-сервіс» вырасла з маленькага кааператыва. Цяпер у яе структуры тры вытворчыя ўчасткі, асноўныя фонды налічваюць 54 мільёны рублёў. Аб'ём работ перавысіць сёлета 110 мільёнаў рублёў. Фірма рамантуе і рэканструюе буйныя аўтамагістралі рэспублікі. Яе поспеху спрыяе супрацоўніцтва з вядомымі нямецкімі прадпрыемствамі. Як сведчыць гісторыя, найбольшы ўздым дарожнага будаўніцтва ва ўсіх краінах супадаў з перыядам выхаду эканомікі з крызісу. Магчыма, росквіт «Дарбуд-сервіс» таксама стане добрай прыкметай паляпшэння спраў у рэспубліцы.**

**НА ЗДЫМКАХ: кальцавая дарога вакол Мінска — адзін з аб'ектаў фірмы. Шырыня дарожнага палатна павялічваецца тут удвая; прараб А. КОНАНАЎ і тэхнік-геадэзіст А. ВАДЗЯНОВІЧ; на рэканструкцыі моста праз Свіслач працуе машыніст А. ЛЕАНОВІЧ.**




## ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# АСЦЯРОЖНА:

**У сучаснай беларускай гістарычнай навуцы гэта, бадай што, непаўторная фігура. З ім мог бы сапернічаць хіба што толькі сумна вядомы Лаўрэнцій Абэцэдарскі. Звыш трыццаці (!) гадоў, крок за крокам, робіць ён спробы стаць манапалістам у гісторыі, гэткім заканадаўцам «моды». Зрэдку яму адмахваюцца, нясмела спрабуюць, так сказаць, даць адлуп, але з гэтага мала што атрымліваецца. Хоць, прынамсі, сказаць яму праўду ў вочы не супраць многія калегі-навукоўцы. Але... Адны пабойваюцца, каб не сапсаваў ім доктар навук усю далейшую біяграфію; другія — самі не надта ўпэўнены ў сабе, сваіх навуковых «адкрыццях»; трэція — проста не хочуць звязвацца з ім...**

**Але дакуль усё гэта можа працягвацца?! Гэты чалавек і сёння яшчэ не-не ды і з'ўляецца ў той ці іншай рэдакцыі газеты ці часопіса, каб прапанаваць ёй свой чарговы «твор». І не аднойчы даводзілася бачыць ужо, як журналісты, што курыруюць навуку, сарамліва апускаючы вочы, просячы прабачэння, адмаўляюць у публікацыі тых «твораў»...**

**Размова ідзе пра доктара гістарычных навук, прафесара Адама Іосіфавіча Залескага.**

...У навуку ён не ўвайшоў, а ў літаральным сэнсе слова ўварваўся — у насцеж расчыненыя дзверы. Толькі адгрымела вайна, усюды — галеча і разбурэнні. Ва ўзросце Хрыста Адам Залескі, паспеўшы да Вялікай Айчыннай скончыць Мінскі педагагічны інстытут і прыняўшы ўдзел у партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, падаецца ў Акадэмію навук рэспублікі. Хуценька збірае патрэбны матэрыял, абараняе кандыдацкую дысертацыю, і ўжо ў 1953-м у Інстытуце гісторыі АН яму давяраюць сектар этнаграфіі. Слуцкія паясы і ручнікі, праснiцы і качалкі, фартухі і хамуты Адаму не вельмі былі даспадобы. Яго больш вабіла народная творчасць: частушкі, прымаўкі, казкі ды паданні. А калі праз чатыры гады ў акадэміі з'явіўся новы інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і Залескага прызначылі намеснікам дырэктара яго, вучоны зразумеў: навуковыя гарызонты можна і трэба пашыраць. Разам з іншымі супрацоўнікамі, і ў першую чаргу — падначаленымі, ён складае і рэдагуе не толькі зборнікі антырэлігійных казак, частушак, прымавак, а і прымае ўдзел у выданні метадычных парад «Новыя звычаі і абрады —у наш быт», «Беларускае вяселле», а таксама зборнікаў «Документы обличают. Реакционная роль религии и церкви на территории Белоруссии», «Причины существования и пути преодоления религиозных пережитков». Але усё гэта — калектыўнае, агульнае: і задумы, і працы...

Спачатку Адам Іосіфавіч нават разгубіўся: а чым бы заняцца асабіста? Канкрэтна? Дзе б гэта праславіцца, пакінуць аб сабе след? Хапануўся за рэлігію: тады гэта было і модна, і прэстыжна. Выдаў дзве асабістыя брашуры: «Рэакцыйная сутнасць Ватыкана і каталіцызма» і «У чым шкодніцтва каталіцызма», але, мабыць, адчуў, што на гэтым «каньку» кар'еру не зробіш. Тады паралельна і павёў ён іншую тэматыку —тэматыку Вялікай Айчыннай.

**Як занатавана ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (том 4, стар. 481), Залескі «вывучае побыт насельніцтва ў партызанскіх краях і зонах; яго барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў». Рабіў ён гэта даволі паспяхова, на працягу пятнаццаці гадоў — з 1960-га па 1974-ы — выдаўшы і перавыдаўшы, крыху падправіўшы, шэраг кніг, манаграфій і брашур, назвы якіх гавораць самі за сябе: «Падарожжа ў суровае мінулае. Нарысы аб жыцці беларускіх сялян на тэрыторыі партызанскага краю», «В партизанских краях и зонах», «Па дарогах партызанскай Брэстчыны», «В тылу врага. Борьба крестьянства Белоруссии против социально-экономических мероприятий немецко-фашистских оккупантов», «Дарогамі партызанскай Беларусі» і інш. Першых дзвюх плюс некалькіх дзесяткаў публікацый у перыядычным друку хапіла для таго, каб у 1963-м з поспехам абараніць дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара гістарычных навук пад назвай «Советский патриотизм крестьянства в условиях немецко-фашистской оккупации Белоруссии (1941—1944 гг.)».**

Як даследчык гісторыі Адам Залескі фарміраваўся і загартоўваўся ў пяцідзесятыя, пачатку шасцідзесятых гадоў. У той час у нашай навуцы набіралася моцы славутая «абэцэдаршчына». А. Залескі і стаў верным спадарожнікам Л. Абэцэдарскага.

Навуку яны «кавалі» адначасова, паралельнымі курсамі: Лаўрэнцій Сямёнавіч — у Беларускім дзяржаўным універсітэце, Адам Іосіфавіч — у Акадэміі навук рэспублікі. Старэйшы на чатыры гады, Залескі і вучоныя ступені атрымліваў раней. Доктарам навук ён стаў у 1963-м, а Абэцэдарскі — у 1966-м. Праўда, апошні быў маладзейшы...

Планы і задумы ў іх былі адны і тыя ж: умацавацца ў беларускай гістарычнай навуцы ў якасці галоўных яе вяршыцеляў. І калі ў больш настойлівага, нахабнага Абэцэдарскага што-кольвечы атрымалася: «абэцэдаршчына», як гэта ні сумна, месца ў нас мела, дык замашкі Залескага хутчэй за ўсё пацерпяць крах: «залесчына» не прымаецца, не прызнаецца... І гэта надзвычай важна: па-першае, хопіць з беларускай навукі «абэцэдаршчыны», а, па-другое, псеўдавучоны ставіцца на месца менавіта сёння, пры ягоным жыцці, пры неаднаразовых спробах стаць новаз'ўленым манапалістам на ісціну.

Перш чым прывесці некалькі разбораў навуковай «творчасці» Адама Залескага, хочацца ўсё ж паразважаць: чаму тры дзесяцігоддзі ніхто не пярэчыў гісторыку, не ўступаў з ім у сапраўдную навуковую палеміку? Няўжо былі паверглнуты ягонымі аргументамі, знаходкамі, вывадамі, аналізам? Аказваецца, не, не ў гэтым справа. Ведалі калегі-навукоўцы — і не толькі кандыдаты навук, а і прафесары, дактары: гэта не так. «Сакрэт» феномена Залескага заключаўся ў іншым: у ягоных цесных сувязях з «кіруючай і накіроўваючай сілай» — Цэнтральным Камітэтам КПБ.

У «белым доме» на вуліцы Карла Маркса ў Мінску ён быў сваім чалавекам. Ледзь што: насунецца дзе-небудзь «хмарка», выявіцца свежы, нестандартны, нетрадыцыйны падыход да таго ці іншага факта ці пытання — Адам Залескі спяшаўся ў ЦК КПБ. Смела і рашуча адчыняў дзверы да першых асоб кампартыі — Мазурава і Машэрава, Кісялёва і Слюнькова, Сакалова і Малафеева — і... неўзабаве «навука» рабілася па-ягонаму: каго трэба было — «одёргивали», ставілі на месца, знеслаўлялі... У імя дасягнення партыйных мэт усе сродкі лічыліся дазволенымі.

Цярпела не толькі гісторыя як навука, хоць ужо адно гэта з'ўляецца — без перабольшання — самым сапраўдным злачынствам. Цярпелі людзі, іх сумленныя шчырыя справы. І найбольш пасля таго, як у ЦК КПБ паступалі гэтак званыя закрытыя рэцэнзіі (а больш дакладна — палітычныя даносы) Адама Залескага. А самай першай ягонай ахвярай стаў чалавек, які з'ўляецца сёння гонарам і сумленнем беларус-

# Вясёлка з... пораху

Недасведчаны ў тонкасцях хіміі чалавек на пытанне, для чаго прыдумалі порах, напэўна, скажа: каб страляць. І ўгадае толькі напалавіну. Са смяротнага парашку, аказваецца, пасля адпаведнай тэхналагічнай апрацоўкі можна атрымаць цудоўныя фарбавальнікі ўсіх адценняў вясёлкі. А калі непатрэбнага пораху шмат, а лакафарбавыя матэрыялы ў дэфіцыце, за яго «перапрафіліраванне» з мілітарысцкага ў зусім цывільны сродак не толькі варта, але нават і неабходна брацца як мага хутчэй. Першымі гэта зразумелі, на шчасце, тыя, хто бліжэй за ўсіх да «страляючай» хіміі — ваенныя. І наогул, у Міністэрстве абароны рэспублікі ўсё больш выразна акрэсліваюцца контуры праграмы ўтылізацыі не толькі пораху, але і боеприпасаў у цэлым, якія цяпер сталі лішнімі.

А запасы іх на тэрыторыі рэспублікі скапіліся за доўгія гады вялікія. Вось і прадугледжваецца заляжалыя баявыя зарады перапрацаваць на ўзрыўчатку для рудных кар'ераў, пракладкі дарог, будаўніцтва, выкарыстаць у іншых мірных мэтах. Утылізавацца будуць узрывальнікі, дэталі якіх можна з поспехам выкарыстоўваць у дакладнай механіцы, вытворчасці гадзіннікаў і іншых бытавых прыбораў. А гільзы снарадаў, скажам, будуць пераплаўлены, і каляровы метал пойдзе на розныя вырабы. Усё гэта дасць важкую прыбаўку ў бюджэт не толькі Міністэрству абароны, але і рэспублікі ў цэлым.

Стаць партнёрам беларускіх ваенных у важнай справе канверсіі выказала сур'ёзныя намеры Францыя.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ. (БЕЛІНФАРМ).**

## РАСЛІНЫ І ЗДАРОЎЕ




# Дуброўка гусіная

**(ЛАПЧАТКА ГУСИНАЯ)**

**Народныя назвы:** гарлянка белая, мяккая трава, срэбнік, срэбрык, лапкі, маркоўка, жабнік.

На Беларусі расце паўсюдна на лагунах, сметніках, пашах, уздоўж дарог, сярод хмызнякоў, на вільготных глебах.

Шматгадовая травяністая расліна, амаль сцелецца на зямлі. Карэнне тоўстае, цыліндрычнае, клубнепадобнае, са шматлікімі дробнымі карэннямі.

Ад карэнішча адыходзяць тонкія паўзлівыя сцяблы да 80 см даўжыні, яны ўкараняюцца. Ад сцяблоў месцамі адыходзяць тонкія вусы, яны таксама ўкараняюцца ў глебу.

Лісце прыкаранёвае, перарывістапёрыстае з 9—20 лісцікамі, чаранковае, шматлікае, моцна апушанае, зверху зялёнае, знізу серабрыста-бела-лямцавае аксамітавае. Ніжняе сцеблавое лісце кароткачаранковае, верхняе — рэдуцыраванае, нешматлікае.

Цвіце з мая па жнівень. З пазухаў лісця выходзяць парасткі, на якіх размяшчаюцца адзінкавыя пяціпялёсткавыя кветкі залаціста-жоўтага колеру з двайной чашачкай, у якой размяшчаюцца песцікі і тычынкі прыемнага паху.

Плод — зборная сухая насенка.

У расліне змяшчаюцца дубільныя рэчывы, арганічныя кіслоты, флаваноіды, тлусты алей. У карэнні шмат крухмалу, бялка.

Добры меданос.



### У гаспадарцы

з лісця і сцяблоў дуброўкі гусінай можна атрымліваць жоўты фарбавальнік для тканін з кветак — чорны і чырвоны. Расліну выкарыстоўваюць пры дубленні скур.

### Пры харчаванні

ўжываюць маладыя парасткі і лісце. З іх гатуюць салаты, баршчы, супы. З высушанага лісця робяць сурагат чаю, прыправы да мясных, рыбных, крупяных страў. Карэнне адварваюць і ядуць як агародніну. Муку з карэння дабаўляюць у цеста. Крухмал з карэння выкарыстоўваюць для прыгатавання кісялёў.

МУКА, КРУПЫ З ДУБРОЎКІ ГУСІНАЙ. Карэнішча ачысціць ад дробнага карэння, старанна прамыць халоднай вадой, пачысціць, парэзаць уздоўж на 2—3 часткі, пасля ўпоперак на кавалкі 3—5 см, вымачыць у халоднай вадзе для выдалення горычы, падсушыць на паветры 2—3 дні, пасля ў сушылках, духоўках, печах пры тэмпературы 50—60°C (можна сушыць у сушылках адразу). Высушанае карэнне змалоць.

МУКА І КРУПЫ З НАСЕННЯ ДУБРОЎКІ. Насенне ачысціць ад пабочных прымесей, падсмажыць, здрабніць. Калі ў муцэ адчуваецца горкасць, перад ужываннем яе неабходна адмачыць у халоднай вадзе.

Муку з дуброўкі змешваюць з жытняй мукой (1:1) і выкарыстоўваюць для выпечкі хлеба, аладак, пернікаў.

САЛАТА З ДУБРОЎКІ ГУСІНАЙ. Апаранае маладое лісце, шчаўе, зялёную цыбулю парэзаць, пасаліць, запраўіць смятанай, маянэзам, таматным соусам ці алеем і воцатам.

150 г лісця дуброўкі, 50 г шчаўя, 25 г зялёнай цыбулі, 25 г смятаны (ці маянэзу, таматнага соусу, алею), воцат, соль па смаку.

КАПУСТА З ДУБРОЎКАЙ ГУСІНАЙ. У падсоленым мясным булёне ці вадзе зварыць агародніну (бульбу, карэнне пятрушкі, капусту, моркву), дабавіць здробненае маладое лісце дуброўкі і шчаўе, пасераваную цыбулю і гатаваць 5 хвілін. Перад падачай на стол запраўіць скрылікамі крута зваранага яйка, смятанай і пасыпаць зяленівам кропу і пятрушкі.

500 мл булёну, 150 г дуброўкі, 50 г морквы, 100 г бульбы, 100 г шчаўя, 100 г капусты, 15 г карэння пятрушкі, 50 г цыбулі рэпчатай, 20 г алею, 1 яйка, 25 г смятаны, соль, зяленіва кропу і пятрушкі.

ПЮРЭ З ДУБРОЎКІ ГУСІНАЙ. Маладое лісце і карэнне дуброўкі старанна прамыць халоднай вадой, прапусціць праз мясарубку, дабавіць перац, кроп, воцат, соль па смаку. Захоўваць у шкляных слоіках у халаднаватым месцы. Выкарыстоўваць для прыправы да першых і другіх страў, закусак.

ПРЫПРАВА З КАРЭННЯ ДУБРОЎКІ. Высушанае карэнне змалоць. Захоўваць у слоіках, папяровых мяшэчках. Выкарыстоўваць для вострых прыпраў да мясных і рыбных страў.

ПРЫПРАВА З ЛІСЦЯ ДУБРОЎКІ ГУСІНАЙ. Высушанае маладое лісце здрабніць. Выкарыстоўваць да мясных, рыбных, крупяных страў.

### У народнай медыцыне

выкарыстоўваюць карэнне і траву дуброўкі гусінай. Яны аказваюць даўкае, замацавальнае, мачагоннае, антысептычнае, раназагойвальнае, супрацьзапаленчае дзеянне.

НАСТОЙ ТРАВЫ З КАРЭННЕМ ДУБРОЎКІ. 20 г травы з карэннем настойваць у 1 л кіпеню 1 гадзіну, пасля працадзіць. Піць па 200 мл 2—3 разы на дзень пры цынзе, гастрытах, калітах з паносамі, дызентэрыі, язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, халецыстытах, болі ў жываце, матачных крывацёках, ныркавакаменнай хваробе. Паласкаць поласць роту, выкарыстоўваць для спрынцавання пры белях.

АДВАР З ТРАВЫ ДУБРОЎКІ. 20 г травы праварыць у 200 мл вады, настойваць 2 гадзіны, пасля працадзіць. Піць па 50 мл 3—4 разы на дзень перад ядой пры цынзе, туберкулёзе лёгкіх, грыжы, апушчэнні маткі. Рабіць прымочкі пры ўдарах, мокрай экземе, ранах, гемароі, сутаргах у ікраножных мышцах. Цёплым адварам паласкаць поласць рота пры зубным болі, запаленні і крыватачывасці дзёснаў.

АДВАР З НАСЕННЯ ДУБРОЎКІ. 5—10 г насення гатаваць у 200 мл малака 5 хвілін, пасля працадзіць. Піць па 100 мл 2 разы на дзень раніцай і вечарам пры балючых менструацыях, матачным болі.

АДВАР СА ЗБОРУ ТРАЎ. Траву дуброўкі гусінай, крапівы, спарышу, мяты, крываўніку, пырніку, стрэлак, узятыя ў роўных колькасцях, старанна перамяшаць. 100 г сумесі гатаваць у 200 мл вады 15 хвілі, настойваць 30 хвілін, развесці кіпенем да тэмпературы 39—40°C. Ванны назначаюць пры парушэнні абмену рэчываў, атлусценні, поліартрытах, сутаргах у ікраножных мышцах.

СОК З ТРАВЫ ДУБРОЎКІ піць па 1 сталовай лыжцы 4 разы на дзень пры кровахарканні, мочакаменнай хваробе, клімактэрычных крывацёках. Выкарыстоўваць пры абмыванні гнойных, доўга не загойных ран, болек, мыць твар ад вугроў.

СОК СА СВЕЖАЙ ТРАВЫ ДУБРОЎКІ ГУСІНАЙ з сокам зялёнага жыта (1:1) ужываць па 1 сталовай лыжцы 3 разы на дзень пры мочакаменнай і жоўцекаменнай хваробах.

ТРАВУ абварыць кіпенем, загарнуць у марлю. Выкарыстоўваць для кампрэсаў пры запаленні скуры, на балючыя суставы, мышцы.

Супрацьпаказанні не выяўлены.

### Нарыхтоўваюць

траву дуброўкі гусінай далёка ад дарог, у перыяд цвіцення. Сушаць на паветры. Карэнне збіраюць у верасні — кастрычніку, насенне — па меры паспявання.

Захоўваць у каробках, высланых паперай, у памяшканні, добра праветраным.

Тэрмін захоўвання — да 2 гадоў.

**Ніна АЛЯКСЕЙЧЫК, Валер САНЬКО.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 23 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.45.** «Прыгавораны». Маст. фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Для дзяцей. «Папараць-кветка». Купалле на Віцебшчыне.
**17.05.** Мультфільмы.
**18.00.** «За мірнае неба». Юбілей авіяпалка. Перадача з Брэста.
**18.35.** «Каб горан не згас». Дак. фільм.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** «Фарбы зямлі роднай», «У гарах Урала». Кінанарысы.
**19.40.** Каралеўскае паляванне. Шоу-казіно. Перадача з Віцебска.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Закрыццё міжнароднага музычнага фестывалю «Славянскі кірмаш». Гала-канцэрт.

**І канал. Астанкіна**

**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.45.** Кінапанарама.
**10.50.** Мультфільм.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Дак. фільм.
**13.10.** Тэлемікст.
**13.55.** Блакнот.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** «Пункт вяртання». Маст. фільм. 1-я серыя.
**15.30.** Сёння і тады.
**16.00.** Разам з чэмпіёнамі.
**16.20.** Дзіцячы музычны клуб.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.00.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.45.** «Лючана Павароці—падзея».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Маст. фільм «Кватэра». 7-я серыя.
**21.05.** Максіма.
**21.30.** Вячэрні альбом.
**22.00.** Закрыццё міжнароднага музычнага фестывалю «Славянскі кірмаш».
**0.50.** «Пункт вяртання». Маст. фільм. 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

**9.55.** «Чарадзейнае слова гонару». Маст. фільм.
**11.05.** Непазнаны Сусвет.
**11.50.** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Тэрмінал.
**15.30.** Мульці-пульці.
**15.45.** Пілігрым.
**16.30.** Там-там—навіны.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Гэтым летам з Сочы з прывітаннем».
**17.45.** Праграма «Ключ».
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Свет спорту вачыма фірмы «Жылет».
**20.00.** «Экспацэнтр» прадстаўляе.
**20.05.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.50.** Міжнародны конкурс папулярнай музыкі «Юрмала-92».

### 24 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.45.** «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Мультфільмы.
**17.20.** Без пяці 18. Перадача для падлеткаў.
**18.00.** Дак. фільмы «Навошта ты будуеш гэты дом», «Быт, быт, быт...»
**19.00.** Абласныя навіны (Магілёў).
**19.10.** Наш каментарый. «Новы «Анты-Дзюрынг».
**19.15.** Праграма для людзей сталага ўзросту.
**20.25.** «Каму коні сняцца ў сне». Кінанарыс.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе...
**23.25.** «Алімпіяда—на старт!» Інтэрв'ю прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі У. М. Рыжанкова.
**23.55.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**7.50.** «Зайчаня заблудзілася». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.05.** ...Да 16 і старэйшым.
**9.45.** Лімпапо.
**10.15.** Канцэрт В. Нарэйкі і Акадэмічнага аркестра рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам М. Някрасава.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**12.10.** Танцы, танцы, танцы.
**12.50.** Дак. фільм.
**13.15.** Брыдж.
**13.40.** Бізнес-клас.
**13.55.** Блакнот.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** «Пункт вяртання». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.30.** Хіт-топ-шоу «50×50».
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Авіякасмічны салон.
**17.40.** Чалавек і закон.
**18.10.** Прэм'ера «Прыгоды чорнага прыгажуна». Тэлефільм для дзяцей. 2-я серыя. «Рабочы поні».
**18.35.** ТБ «Нява», «Хто з намі?»
**18.55.** Тэатральныя сустрэчы. «Непрыдуманыя гісторыі».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «ВІД» прадстаўляе: «Поле цудаў», «Адпачывай», «MTV».
**22.10.** XXV летнія Алімпійскія гульні. Футбол. Зборная Італіі—зборная ЗША.
**0.15.** «Інтэрфест-92».
**1.15.** «Пункт вяртання». Маст. фільм. 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.05.** Мульці-пульці.
**11.20.** І. Кадомцаў. «Маўглі». Спектакль музычнага тэатра юнага акцёра.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Прастора плюс.
**15.30.** Першы тайм.
**15.45.** Падарожжа ў падзямелле.
**16.30.** Там-там—навіны.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Акно» (дзелавая Расія).
**17.30.** Палітаддзел...
**18.00.** «Так і жывём».
**18.45.** Экран крымінальных паведамленняў.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Форс-мажор.
**19.55.** У свеце аўта і мотаспорту.
**20.25.** Міжнародны конкурс папулярнай музыкі «Юрмала-92».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.50.** «Познія спатканні». Маст. фільм.

# «Атэль «Хрыстафор» і яго жыхары

**У 1987 годзе, калі па краіне на ўсю моц бушавала перабудова, а, значыць, жыць станавілася ўсё горш, у Мінску раптам з'явіўся кіеўскі пісьменнік-сатырык Уладзімір Пярцоў. А паколькі творчая асоба не выносіць затворніцтва, то адразу ж пачаліся пошукі тых, хто блізкі па духу. Апошнія па далёкіх кутах не хаваліся: Пярцоў «вышчыміў» іх у... тэатры імя Янкі Купалы. Былі ж гэтымі кампанейскімі мужыкамі сёння ўсім знакамітыя Яўген Крыжаноўскі і Юрый Лясны, якія на той момант працавалі пад дахам тэатра адпаведна 12 і 18 гадоў. Праўда, не ляжала ў іх душа да класікаў. Сапраўднае майстэрства і талент яны праяўлялі у полюсна процілеглым напрамку у тэатральных капусніках. Таму прапанову Пярцова заняцца эстрадай прынялі як боскае выратаванне. Праўда, гутаркі пра стварэнне тэатра сатыры і гумару тады яшчэ не ішло...**

Літаральна за лічаныя месяцы была падрыхтавана ўласная праграма. Першая ўжо абкатка прайшла «на ўра!» Вельмі хутка ўзялі ў сваю каманду прафесіянальнага музыканта, выпускніка кансерваторыі Сяргея Краўца. Пачалі працаваць, абрастаць людзьмі, і неўзабаве наваяўлены тэатр «Хрыстафор» пад поўную аптымізму музыку пачаў імкліва накручваць віткі папулярнасці. І сёння наўрад ці можна знайсці чалавека, прынамсі ў межах Беларусі, які б не чуў, або на свае вочы не бачыў «Хрыстафор».

Тэатр на пачатку свайго існавання не меў на мэце стаць альтэрнатывай тэатру афіцыяльнаму. Усё намнога прасцей. Як ні сорамна, Беларусь да сённяшняга дня не мае свайго эстраднага тэатра (акрамя, вядома, «Хрыстафора»). «Хрыстафор» падараваў гледачам хранічны «саўковы» дэфіцыт—выдатны настрой і весялосць. Жанр гумару, сатыры мае на ўвазе клопат пра гледача. І таму найлепшае пацвярджэнне — поўныя залы на прэм'ерах і радавых выступленнях «Хрыстафора» ў той час, калі людзей у тэатры не заманіш нават смехатворна таннымі білетамі.

Але ва ўсе часы культура не была застрахавана ад палітычных катаклізмаў. Наўрад ці ў каго павернецца язык назваць сённяшнюю культуру вострававам поспеху ў акіяне ўсеагульнага жабрацтва. І хаця ў тым жа «Хрыстафоры» з голаду пакуль што ніхто не паміраe, але пры зарплаце 1,5—2,5 тысячы сямейнаму чалавеку, пагадзіцеся, зусім нялёгка зводзіць канцы з канцамі. Малаадчувальная дапамога і ад спонсараў, якія, па словах Яўгена Крыжаноўскага, з маланкавай хуткасцю мяняюцца на паперы. Як ні дзіўна, значную дапамогу тэатру аказваюць толькі... ваенныя. У прыватнасці, усе транспартныя праблемы ляглі на іх плечы.

Але хлопцы пры любых умовах далёкія ад думкі падаць духам, многія пераканаліся ў гэтым, калі паглядзелі на Беларускім тэлебачанні праграму «Шоу-казіно «Каралеўскае паляванне». Ролю вядучых там выконвалі ўсё той жа Яўген Крыжаноўскі і Сяргей Кравец. Свой выхад у эфір тлумачыць Яўген Крыжаноўскі:

— Ідэя стварэння ўласнай тэлеперадачы вітала ў тэатры даўно. І яна будзе. Справа ў тым, што «казіно» — гэта яшчэ не асабістая праграма. Мы з Сяргеем проста запрошаны яе весці. Наша тэлеверсія атрымае назву «Атэль «Хрыстафор». Зробленая па аналогіі са знакамітым у мінулым «Шынком 13 крэслаў», яна будзе мець прынцыповыя адрозненні. У прыватнасці, маштабнасць. Калі ў першым выпадку ўсё было абмежавана сценамі шынка, то ў нашым перад гледачамі прадстане цэлы прыватызаваны атэль з шэрагам службаў: гэта і рэстаран, і медпункт, і гасцінічныя нумары, і той жа шынок. І ўсю гэту гаспадарку будуць весці артысты нашага тэатра.

Але гэта толькі бліжэйшая перспектыва. Зараз жа «Хрыстафор» рыхтуе да выпуску на тэлеэкраны серыял «Багатыя плачуць доўга». Як вы, напэўна, ужо здагадаліся —гэта будзе шматсерыйная разгорнутая пародыя, але не толькі на мексіканскі тэлесерыял, але і на яго «копіі», ва ўсіх частках свету. У прыватнасці, знойдзе тут сваё месца і «Рабыня Ізаўра», і індыйская меладрама, і г. д. Так што, недзе з восені «Хрыстафор» пачне масіраваную атаку на беларускага тэлегледача.

Гэта не будзе тэледэбютам тэатра. Некалькі гадоў назад ужо адбылося знаёмства з маскоўскім ТБ, калі тэатр падрыхтаваў праграму «Ангажэмент тэатра «Хрыстафор». Праўда, на гэтым усё і скончылася, бо, па словах Крыжаноўскага, там свая сіла, свая мафія, свае «расцэнкі». Нехта нават раіў даць, каму трэба, на лапу, але пры цяперашнім крытычным становішчы такая раскоша была б перадсмяротным стогнам. Ды і няўжо не хопіць работы ў Беларусі?

Хопіць — не хопіць, але ж не трэба забывацца і пра гастрольныя шляхі. У канцы красавіка «Хрыстафор» без ваганняў прыняў запрашэнне на ўдзел у трэцім Міжнародным фестывалі сатыры і гумару на Кубак Райкіна ў Рызе. Прыняў — і зрабіў тым самым у латвійскай сталіцы сапраўдны фурор. Тры фестывальныя дні «Хрыстафор» выклікаў шквал апладысментаў. Мала таго, менавіта гэты тэатр стаў уладальнікам ганаровага трафея, а яго выхаванцы Уладзімір Пярцоў, Сяргей Кравец і Аляксандр Нікітчанка атрымалі лаўрэацкія званні. Здавалася б, радавацца трэба. Але... Абяцаная арганізатарамі фестывалю грашовая прэмія 50 тысяч рублёў уладальніку Кубка Райкіна так і асела, як пыл, у кулуарах гасціннага Дома Кангрэсаў. Грошы ж тэатру сёння вельмі патрэбны. Тым больш, што і сама паездка ў Рыгу вылецела ў капеечку. «Але мы не пакрыўджаны на арганізатараў, хаця больш туды, вядома, не паедзем,— сказаў потым Яўген Крыжаноўскі. — Цяпер чамусьці ўсе прынялі за аксіёму вядзенне несумленнай гульні».

«Правілы гульні» «Хрыстафора», на шчасце, у сувязі з гэтым непрыемным інцыдэнтам, не змяніліся. Сёння «Хрыстафор» адзіны з беларускіх тэатраў, які яшчэ знаходзіць сілы для гастрольнай дзейнасці. Хаця далёка не ўсе артысты вытрымліваюць максімум аддачы пры мінімуме зарплаты. Зараз у спісе «асабістага тэатральнага саставу» лічыцца 15 чалавек, а 25, абведзеныя чорнай рамкай, — тыя, хто не вытрымаў марафону і па розных прычынах развітаўся з «Хрыстафорам». Таленавітыя людзі разбрыдаюцца ў пошуках прыбытковых месц. І тым не менш тэатр жыве, нягледзячы нават на грабежніцкія 60 працэнтаў падатку, якія здзірае з іх дзяржава. А мільёнамі «Хрыстафор» зусім не варочае.

— Вельмі крыўдна, што наша Міністэрства культуры быццам бы і не падазрае пра наша існаванне,— рэзюмуе Я. Крыжаноўскі.— І гэта ў той час, як на эстрадным небасхіле адной шостай сушы мы з'яўляемся калі не самай яркай зоркай, то адной з іх. Нас ведаюць і любяць у Кіеве, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Адэсе. А дома мы як адшчапенцы... Крыўдна. Гэта і ёсць традыцыйная беларуская прыземленасць: не бачыць далей уласнага носа. А час вучыцца жыць не толькі сённяшнім днём.

Дарэчы, яшчэ адзін цікавы момант. Няцяжка ўбачыць, што «Хрыстафор», па словах Крыжаноўскага,— «спаяны і споены мужчынскі калектыў». І ў сувязі з гэтым часта пытаюцца: ці значыць гэта, што прысутнасць сярод артыстаў асоб жаночага полу выключаецца?

— Не,— адказвае Яўген.— Справа ў тым, што з эстрадных актрыс на сёння існуе толькі Клара Новікава і яшчэ некалькі нікому не вядомых. Нам жа патрэбен, скажам так, дублёр Галіны Волчак—жанчына, якая не баіцца паказаць сябе непрыгожай, з хрыплым галасам і лахматай шавялюрай. Але такіх экземпляраў няма, як і эстраднай школы ва ўсёй Беларусі. На жаль, ні інстытут культуры, ні Акадэмія мастацтваў не культывуюць заняткі эстрадай. Але пакуль што мы цудоўна спраўляемся з жаночымі ролямі і ўласнымі сіламі. Так што тут грэх скардзіцца. І ўсё-такі, калі нейкая дзяўчына вышэйназваных характарыстык пажадае звязаць свой лёс з тэатрам «Хрыстафор», мы яе з задавальненнем прымем.



Так што, жанчыны, думайце і не губляйце, можа адзіны шанц з тысячы, які, магчыма, пераверне ўсё ваша жыццё.

**Ігар КАРНЕЙ.**

## АСТРАЛАГІЧНЫ КАЛЯНДАР

# РАК

З 20 ліпеня Сонца знаходзіцца ў сузор'і Рака, якое належыць да малапрыкметных у Задыяку, хоць яго гісторыя вельмі цікавая. Менавіта ў Раку каля 2000 гадоў назад знаходзіўся пункт летняга сонцастаяння.

Згодна са старажытнагрэчаскай міфалогіяй, гэта той самы велізарны рак, што напаў на Геракла, які біўся з Лернейскай Гідрай. Легендарны герой раздавіў яго, але Гера, якая ненавідзела Геракла, змясціла рака на неба. Аднак на старажытных зорных картах тут можна ўбачыць і краба, і быка (у асірыйцаў), і дуб (у кельтаў), і кветку касача (у японцаў).

Назіраць сузор'е Рака лепш за ўсё ў студзені—лютым. Галоўная яго прыкмета — вялікая колькасць рассеяных зорак— Яслі, якая добра відаць нават у прызменны бінокль. Арабы называлі яго «вязанкай сена, што вешаюць на шыю аслу», а кітайцы нават «нагрувашчваннем трупаў». Бо, згодна з некаторымі рэлігійнымі перакананнямі, менавіта праз гэтую вобласць неба сыходзілі душы памёршых, каб пераўтварыцца ў жывыя істоты. Дарэчы, на многіх сучасных замежных зорных картах Яслі—толькі пчаліны рой.

Самая яркая зорка Рака носіць назву Акубенс, што ў перакладзе з арабскай азначае «клюшня».

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, астраном.**

## РАДЫЁ

### 24 ліпеня

7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — нататкі В. Макарэвіча. 10.15 — для дзяцей. А. Ліндгрэн. «Пэпі Доўгаяпанчоха». Музычны радыёспектакль. Частка 2-я. 11.20 — «Саветы: улада і справы». Радыёчасопіс. 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Аматарам класічнай музыкі». 15.15 — канцэрт. 16.05 — «Ад 8 да 14». Праграма для школьнікаў. 17.00 — «Выхадны за горадам». Музычная праграма. 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 20.05 — вячэрняя казка. 20.40 — «Машэрава, 21». Прафсаюзны веснік. 21.00 — музычная праграма, прысвечаная калектыву Салігорскага малочнага завода. 22.00 — музычная праграма. 0.00 — «Начны канал».

# Рабіце высновы: інфекцыя— хвароба брудных рук

**Прафілактычная гутарка з урачом- эпідэміёлагам Галінай Ведзяньковай**

**Лета ў разгары. Настаў час адпачынкаў, турпаходаў, выездаў за горад. І, як звычайна, у гэты час года наш харчовы рацыён узбагаціўся разнастайнымі фруктамі і агароднінай. Аднак лета характэрнае адной непрыемнай асаблівасцю — усплёскам сярод насельніцтва вострых кішэчных захворванняў. І каб перамагчы іх, чалавек павінен ведаць асноўныя сімптомы гэтых хвароб, ведаць, як адбываецца заражэнне і як можна гэтага пазбегнуць, г. зн. авалодаць мерамі прафілактыкі.**

**— Найперш, Галіна Мікалаеўна, якія хваробы адносяцца да кішэчных і хто з'яўляецца асноўным пераносчыкам інфекцый?**

— Да вострых кішэчных інфекцый належаць брушны тыф, паратыфы А і В, сальманелёз, інфекцыйны гепатыт (у прастамоўі жаўтуха), дызентэрыя, колі-інфекцыя і іншыя. А крыніцай кішэчных інфекцый у большасці выпадкаў з'яўляецца чалавек — хворы ці бактэрыяносьбіт.

**— Напэўна, не лішне было б дапоўніць рэальную карціну мовай статыстыкі?**

— Паказчык захворвання па суме АКІЗ (агульная колькасць інфекцыйных захворванняў) за 1991 год складаў 157,3 выпадка на 100 тысяч насельніцтва, што ў 1,2 раза вышэй за ўзровень 1990 г. (паказчык 130,9 на 100 тыс. насельніцтва). Згодна з прагнозам, 1992 год павінен з'яўляцца працягам цыклічнага ўздыму захворвання, які пачаўся ў 1990 годзе (працягласць цыкла 3—4 гады), што пацвярджаецца фактычнымі паказчыкамі захворвання цяпер. Так, за 6 месяцаў сёлета паказчык захворвання склаў 81,2 на 100 тысяч, што ў 1,2 раза перавышае ўзровень аналагічнага перыяду мінулага года: сітуацыя па горадзе ацэньвалася як нездавальняючая. У чэрвені сітуацыя яшчэ больш пагоршылася, што характэрна для цёплага перыяду года. Паказчык захворвання на суму АКІЗ за чэрвень перавысіў аналагічны леташні перыяд ў 2,1 раза і склаў 11,6 на 100 тысяч (чэрвень 1991 г. — 5,5 на 100 тыс.). Для сацыяльна-ўзроставай структуры захворвання характэрная найбольшая паражальнасць неарганізаваных дзяцей ясельнага і садавага ўзросту.

**— А які самы звычайны шлях пападання ўзбуджальніка ў арганізм чалавека?**

— Наогул кішэчныя інфекцыі ўзнікаюць у тым выпадку, калі ўзбуджальнік трапляе ў кішэчнік чалавека і там пачынае размнажацца, выдзяляючы ядавітыя прадукты жыццядзейнасці — таксіны, якія паражаюць страўнікава-кішэчны тракт, нервовую, сардэчна-сасудзістую і іншыя сістэмы арганізма. Гэта адбываецца пры незахаванні правілаў асабістай гігіены. Ад хворых і бактэрыяносьбітаў адбываецца абсемяненне прадметаў навакольнага асяроддзя. Узбуджальнікі кішэчных інфекцый перасяляюцца на прадметы хатняга ўжытку: дзвярныя ручкі, посуд, цацкі і г. д.

Забруджванне харчовых прадуктаў адбываецца ў час кулінарнай апрацоўкі прадуктаў нямытымі рукамі, пры няправільнай транспарціроўцы, пры парушэнні правілаў і тэрмінаў захавання прадуктаў.

Часта на рынку, перш чым купіць ягады, фрукты ці агародніну, гаспадыня спачатку іх каштуе, не падумаўшы пра тое, што яны не памытыя. Недапушчальна даваць дзіцяці толькі што купленыя фрукты, у лепшым выпадку абцёршы іх насоўкай ці паперай.

Павышаную небяспеку маюць стравы, што ўжываюцца ў халодным выглядзе, без цеплавой апрацоўкі — гэта розныя салаты, заліўныя стравы, малако і малочныя прадукты, стравы з субпрадуктаў.

Хвароба можа перадавацца і праз ваду, калі яна забруджана ўзбуджальнікамі. Апошнія трапляюць у адкрыты вадаём праз дажджавыя і талыя воды, таксама шляхам скідвання ў вадаёмы сцёкавых вод. Можна заразіцца, ужываючы з іх ваду сырой ці выкарыстоўваючы яе для мыцця рук, посуду, агародніны ці фруктаў.

**— Наколькі хутка праяўляюцца сімптомы хваробы?**

— Пасля пападання ўзбуджальніка ў арганізм хвароба праяўляецца не адразу, а на працягу скрытага, інкубацыйнага перыяду. Пры розных кішэчных інфекцыях ён розны: ад некалькіх гадзін пры харчовых таксікаінфекцыях да 56 дзён пры брушным тыфе. У канцы гэтага перыяду чалавек адчувае слабасць, галаўны боль, пагаршаецца апетыт. Потым з'яўляюцца характэрныя прыкметы вострай кішэчнай хваробы: павышэнне тэмпературы, болі ў жываце, ваніты, часты рэдкі стул з прымессю слізі і зелені.

У апошнія гады большасць кішэчных інфекцый праходзіць у лёгкай форме, прыкметы хваробы не абавязкова ярка выражаны, таму хворыя не заўсёды лічаць патрэбным звяртацца да ўрача, часта займаюцца самалячэннем. Дарэмна! Толькі ўрач можа паставіць правільны дыягназ, назначыць правільнае лячэнне і арганізаваць прафілактычныя мерапрыемствы.

**— Галіна Мікалаеўна, пытанне, якое проста нельга абмінуць: што кожны чалавек можа зрабіць у сутычцы з «няўмольнай» інфекцыяй?**

— Для таго, каб ахаваць сябе ад заражэння, неабходна захоўваць правілы асабістай гігіены. Нездарма кажуць, што кішэчныя інфекцыі — гэта хвароба брудных рук.

Фрукты і агародніну перад ужываннем неабходна прамыць у цякучай вадзе. Агародніну, фрукты, мяса, рыбу трэба захоўваць асобна ад прадуктаў, якія не праходзяць кулінарнай апрацоўкі. Хлеб кладзіце ў поліэтыленавыя мяшочкі ці загортвайце ў паперу (не ў газету!).

Нельга выкарыстоўваць негатаваную ваду з сажалак, рэк і іншых адкрытых вадаёмаў для піцця, мыцця агародніны, фруктаў, посуду. Збіраючыся за горад — на прагулку, на пляж, — не забудзьцеся ўзяць з сабой біклажку з вадой, а чыстую агародніну і фрукты складзіце ў поліэтыленавыя мяшочкі.

Сярод прадуктаў харчавання вы павінны выдзеліць скорапсавальныя — яны часта з'яўляюцца прычынай кішэчных хвароб (мясны фарш, каўбасы вараныя, рыба адварная, салаты, вінегрэт, халоднае, тварог, малако, піражныя і інш). Таму строга вытрымлівайце тэрміны рэалізацыі і захоўвання гэтых прадуктаў.

**— І ўсё ж, дапусцім, мы прагледзелі небяспеку: у сям'і з'явіўся хворы...**

— Калі ў сям'і ёсць хворы на кішэчную інфекцыю, то яго трэба ізаляваць, выдзеліць асобны посуд, ручнік.

Пасля дакранання да рэчаў хворага абавязкова мыць рукі з мылам; бялізна хворага мыецца асобна, перад мыццём яе трэба кіпяціць не менш за 15 хвілін. Кіпяціцца і посуд хворага. Абавязковае штодзённае вільготнае прыбіранне ў кватэры — з аднапрацэнтным растворам хлараміну (2 чайныя лыжкі на адзін літр гарачай вады) ці мыльна-содавым растворам (па 100 г кальцыніраванай соды і гаспадарчага мыла на вядро вады). Асабліва старанна трэба апрацоўваць падлогу ў туалеце, унітаз, усялякія ручкі: дзвярныя, мэблевыя.

**Гутарыў Ігар КАРНЕЙ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах —32-35-91.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 145.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12